# Падзеі ◇ Здарэнні ◇ Факты ◇ Каментарыі ◇ Весткі

 СВЕТ

## ПРАПАНОВА КАНФЕРЭНЦЫІ ПЯЦІ

Нядаўна урад Савецкага Саюза апублікаваў заяву па пытанню аб скліканні канферэнцыі ядзерных дзяржаў. Заява была перададзена урадам ЗША, КНР, Францыі і Англіі.

Прааналізаваўшы міжнародную абстаноўку, урад СССР лічыць, што ў прымяненні дзейсных мер, якія вядуць да ядзернага раззбраення, заключаецца абавязак і адказнасць усіх ядзерных дзяржаў. Яны, менавіта яны, — гаворыцца ў заяве, — могуць і павінны выпрацаваць і ажыццявіць практычную праграму ядзернага раззбраення.

Вядома, што ў ядзерных дзяржаў пакуль няма адзінага падыходу да вырашэння пытанняў ядзернага раззбраення і што іх погляды па гэтых пытаннях у многім разыходзяцца. Але гэта не павінна быць перашкодай да таго. каб ядзерныя дзяржавы пачалі сумесную работу, накіраваную на збліжэнне сваіх пунктаў гледжання.

З улікам такіх меркаванняў Савецкі ўрад прапануе склікаць у бліжэйшы час канферэнцыю пяці дзяржаў, якія маюць ядзерную зброю, — Савецкага Саюза, Злучаных Штатаў Амерыкі, Кітайскай Народнай Рэспублікі, Францыі і Вялікабрытаніі. На такой нарадзе маглі б быць разгледжаны пытанні ядзернага раззбраення ў цэлым. Што датычыць дагаворанасці, якая з'явілася б вынікам перагавораў, то яна магла б ахопліваць як увесь комплекс мер ядзернага раззбраення, так і асобныя меры, якія паступова падводзілі б да гэтай мэты.

## АБУРЭННЕ

У амерыканскім кангрэсе па-ранейшаму настойваюць на тым, каб урад выдаў заканадаўцам сакрэтны даклад Пентагона, які раскрывае падаплёку падрыхтоўкі амерыканскай агрэсіі супраць в'етнамскага народа.

Сенатар Эдмунд Маскі заявіў, што калі газетам «Нью-Йорк таймс» і «Вашынгтон пост» не дазваляюць публікаваць матэрыялы пентагонаўскага даклада і калі ваеннае ведамства не рассакрэціць свой даклад, то «вельмі многа амерыканцаў па-ранейшаму будзе думаць, што ад іх усё яшчэ штосьці ўтойваюць». Прадстаўнікі ўрада, аднак, якраз і прызнаюць, што ў гэтым дакладзе Пентагона ёсць матэрыялы, якія ўлады хочуць утаіць ад амерыканскага народа.

## ДАПАМОГА

Па просьбе індыйскага ўрада Савецкі Саюз накіраваў транспартныя самалёты «АН-12» для аказання дапамогі пры вырашэнні праблемы з усходнепакістанскімі бежанцамі, якія знаходзяцца цяпер на тэрыторыі Індыі.

## ЗНЯВОЛЕНЫЯ

Міністр паліцыі Ізраіля Ш. Хілель заявіў, што ў ізраільскіх турмах па абвінавачанню ў «тэрарызме» ўтрымліваецца 3.600 зняволеных. Гэты факт сведчыць аб тым, што ізраільскія ўлады, імкнучыся падавіць супраціўленне насельніцтва акупіраваных арабскіх тэрыторый, усё ў большай меры прыбягаюць да рэпрэсій і арыштаў. (ак)

 БССР

## АКАДЭМІК КРАСІН

Споўнілася 60 гадоў выдатнаму беларускаму вучонаму Андрэю Красіну. Ён спецыяліст у галіне ядзернай тэхнікі, узначальвае Інстытут ядзернай энергетыкі Акадэміі навук БССР.

А. Красін пад кірункам вядомага вучонага-атамшчыка Ігара Курчатава працаваў над устанаўленнем першай у свеце атамнай электрастанцыі. За вялікія навуковыя дасягненні яму прысвоена Ленінская прэмія.

## БЕЛАРУСКАЕ МАСТАЦТВА

У чэрвені адбылося чарговае пленарнае пасяджэнне праўлення Саюза мастакоў БССР. Было яно прысвечана пытанням развіцця беларускага мастацтвазнаўства і крытыкі. Дакладчык А. Сурскі адзначыў, што беларускае мастацтва выходзіць на міжнародную арэну, што дасягае яно значных поспехаў, а беларускія мастакі атрымліваюць высокія ўзнагароды на ўсесаюзных і міжнародных конкурсах.

## НАРОДНЫЯ ЎМЕЛЬЦЫ

Гомельшчына здаўна славіцца як край самабытных народных умельцаў. У юбілейных выстаўках мінулага года ўдзельнічала больш як 1700 народных майстроў і самадзейных мастакоў, якія паказалі 2130 твораў. 46 прадстаўнікоў Гомельшчыны было запрошана ў Маскву на Усесаюзную выстаўку, дзе дыпломам І ступені былі адзначаны работы разьбяра па дрэве Дзмітрыя Сталярова з Рагачоўскага раёна.

## КАЗКІ

Выдавецтва «Навука і тэхніка» выпусціла ў свет зборнік «Казкі пра жывёл і чарадзейныя казкі». Кніжку склаў фалькларыст К. Кабшнікаў. Ён таксама напісаў уступны артыкул, у якім коратка расказвае пра беларускія народныя казкі, пра гісторыю іх збірання і вывучэння, пра змест і нацыянальныя асаблівасці. У зборніку знаходзім звыш 180 розных казак. Ён з'яўляецца звяном шматтомнага акадэмічнага выдання беларускага фальклору.

## ХЛЕБАЗАВОДЫ

У вёсках Магілёўскай вобласці дзейнічаюць зараз 42 механізаваныя хлебазаводы. Яны здольны забяспечыць печаным хлебам мільён чалавек. Нядаўна ўступіў у строй новы хлебазавод у вёсцы Курманава Мсціслаўскага раёна. Ён поўнасцю механізаваны. Выпускае ў суткі 10 тон хлеба і шмат абаранкавых і булачных вырабаў.

## ПАЛЕСКІ НАФТАЗАВОД

Дырэктывамі XXIV з'езда КПСС на новую пяцігодку прадугледжана павелічэнне здабычы нафты ў Беларусі прыкладна ў два разы. Аднaчасова пастаноўлена пабудаваць Мазырскі нафтаперапрацоўчы завод. Ужо цяпер на будаўнічых пляцоўках на ўскраіне Мазыра паявіліся шматпавярховыя дамы, корпус вучылішча тэалогіі, узводзяцца вытворчыя і адміністрацыйныя будынкі.

Новы горад, які будаўнікі ўжо цяпер называюць Палескі Нафтаград, будзе ўтрая большы за сённяшні Мазыр. (вр)

 ПОЛЬШЧА

## ПАСЯДЖЭННЕ СЕЙМА ПНР

23 чэрвеня г.г. прэм'ер П. Ярашэвіч выступаў з прамоваю ў Сейме. Гаварыў ён аб намаганнях, зробленых партыйнымі і дзяржаўнымі ўладамі ў напрамку лепшага забеспячэння польскага грамадства спажывецкімі артыкуламі і будаўнічымі матэрыяламі. Зараз значна паправілася забеспячэнне жыхароў нашай краіны мясам і мяснымі прадуктамі. Іншая справа, якая знаходзіцца ў цэнтры ўвагі партыі і ўрада, гэта забеспячэнне сялян патрэбнымі сельскагаспадарчымі машынамі і будаўнічымі матэрыяламі. Як вядома, усё яшчэ адчуваецца недахоп сельскагаспадарчых машын і будаўнічых матэрыялаў.

Кіруючыя ўлады нашай краіны прынялі рад пастаноў адносна павелічэння прадукцыі ў спажывецкай і лёгкай прамысловасці, запланавалі мадэрнізацыю пунктаў скупу хатняй жывёлы і мясных магазінаў. Урад прыдзяліў на гэтыя інвестыцыі дадаткова каля 350 мільёнаў злотых. Звернута таксама ўвага на пабудову новых крамаў у многіх раёнах вялікіх гарадоў, у якіх жыхары вымушаны рабіць пакупкі ў цэнтры горада, на павелічэнне колькасці так званых «рухомых» пунктаў продажу, на развіццё перасылачнай формы продажу і іншых форм гандлёвых паслуг. Важнымі справамі з'яўляюцца таксама такія справы, як павелічэнне рамесных варштатаў і павелічэнне аўтамашын для вясковага гандлю, продаж вугалю сялянам. У цэнтры ўвагі надалей будзе павелічэнне прадукцыі і матэрыяльна-тэхнічнае забеспячэнне нашай гаспадаркі, паляпшэнне паспяховасці працы, ліквідацыя занядбанняў і аслаблення дысцыпліны, пракладванне напрамкаў для масавай грамадскай ініцыятывы.

На гэтым пасяджэнні Сейм ПНР выбраў членамі Рады Дзяржавы пасла Ф. Гесінга — намесніка прэзаса НК ЗСЛь, прэзаса Цэнтральнага Саюза сельскагаспадарчых гурткоў і пасла Б. Пясэцкага — прэзаса Таварыства «Пакс». Прэзасам НІК выбраны пасол М. Мочар, вядомы палітычны, партыйны і дзяржаўны дзеяч, член Палітычнага бюро ЦК ПАРП.

## X. ПЛЕНУМ ЦК ПАРП

У канцы чэрвеня г.г. адбылося пасяджэнне X Пленума ЦК ПАРП. Ставіліся на ім грамадска-гаспадарчыя праблемы развіцця краіны ў гадах 1971—75 і арганізацыйныя справы. З прамовaю выступаў прэм'ер П. Ярашэвіч. Прэм'ер заявіў, што ў гэтай пяцігодцы павялічацца заробкі рабочых на 17—18 працэнтаў. Дзякуючы гэтаму значна паправіцца матэрыяльная сітуацыя грамадства. У 1971—75 гадах трэба будзе забяспечыць працай 3,5 мільёны маладых людзей, будаваць больш памяшканняў, інтэрнатаў, палепшыць стан бытавых умоў на прадпрыемствах, узмоцніць арганізацыйна сельскагаспадарчыя гурткі і кааператывы і г.д.

Пленум адклікаў з пасады сакратароў ЦК Мечыслава Мочара і Артура Старэвіча ў сувязі з іх пераходам на іншую работу. (яц)

 ВАЯВОДСТВА

## СУСТРЭЧА З МІНІСТРАМ

У ваяводскім камітэце партыі адбылася сустрэча кіраўніцтва ВК і прэзідыума ВРН з міністрам сувязі праф. Эдвардам Кавальчыкам. Тэмай сустрэчы было далейшае развіццё тэлекамунікацыі ў нашым ваяводстве, асабліва тэлефанізацыі вёсак, павятовых гарадоў і самога Беластока.

## СВЯТА СПУЛДЗЕЛЬЧАСЦІ

У сувязі з Міжнародным днём спулдзельчасці 26.VI адбылася ваяводская акадэмія, на якой сярод запрошаных гасцей прысутнічалі І сакратар ВК партыі А. Лашэвіч, сакратары ВК С. Кудла і С. Рубчэўскі, намеснік старшыні прэзідыума ВРН Ул. Міхалюк.

Найбольшай спулдзельчай арганізацыяй у нашым ваяводстве з'яўляецца спулдзельчасць забеспячэння і продажу, на другім месцы — ашчадна-пазыкавыя спулдзельні. У гарадах найбольш членаў аб'ядноўвае ВСС «Сполэм». Апрача таго, значную колькасць членаў маюць ВЗГС, ПЗГС, гмінныя спулдзельні, вучнёўская і іншыя.

У час сустрэчы з уладамі гаварылася аб спулдзельчых справах гэтага года. Ад імя ўлад выступілі А. Лашэвіч і С. Рубчэўскі. Яны добра ацанілі працу спулдзельцаў нашага ваяводства.

## АБ ГАСПАДАРЧЫХ СПРАВАХ

У мінулым тыдні адбылося пленарнае пасяджэнне эканамічнай камісіі ВК партыі. Удзельнічалі ў пасяджэнні і эканамічныя сакратары ПК. На пасяджэнні абмяркоўваліся арганізацыйныя справы і актуальнае гаспадарчае становішча ў ваяводстве. Шмат увагі было прысвечана недахопам у забеспячэнні гандлёвых устаноў мясам і мяснымі вырабамі. У чэрвені наша ваяводства дадаткова атрымала 350 тон мяса. У бліжэйшыя месяцы наступіць больш выразнае паляпшэнне.

## ПЛЕНУМ ГК ФАН

Нядаўна адбылося пленарнае пасяджэнне гарадскога камітэта Фронту адзінства народа, на якім была падсумавана дзейнасць камітэта за мінулы год. Гарадскі камітэт арганізаваў у мінулым годзе 54 сустрэчы паслоў, радных ВРН і МРН з жыхарамі горада. Дзякуючы цеснаму супрацоўніцтву з гарадскім камітэтам грамадскай працы дасягнуты вельмі добрыя вынікі ў працы грамадскім чынам: зроблена было 6,7 км водаправоднай сеткі, 2,3 км каналізацыі, рамонты школ і прадшколляў і іншыя. Многім дзеячам былі ўручаны дыпломы за поспехі ў грамадска-палітычнай дзейнасці.

## «НЁМАН» У БЕЛАСТОКУ

Шэсць дзён прабываў на Беласточчыне народны калектыў песні і танца «Нёман» з Гродна. Калектыў выступіў з цікавай праграмай, аснованай на фальклоры Беларусі і іншых рэспублік СССР. Гродзенцы далі канцэрты ў Беластоку, Алецку, Кольне і Ломжы. Гэта быў рэвізіт на канцэрты беластоцкага рэгіянальнага калектыву «Курпе зялёнэ» ў Гродне. (яч)




**Niedziela 4.VII.**

8.35 Program dnia. 9.10 TV Kurs Rolniczy: „Lato 1971”. 9.20 „Przypominamy, radzimy”. 9.30 „Nowoczesność w domu i zagrodzie”. 9.50 „Pogromczyni lwów” — film fab. radz. 11.30 „Skarby Ermitażu”. 12.00 „Narodziny życia” — film USA. 13.15 Program dnia. 13.20 Dziennik. 13.35 „Od Wisły daleko” — film dok. polski. 13.55 „Przemiany”. 14.25 „Henrykowskie Stalle” („Muzyka i architektura”). 15.10 „Spotkanie z pisarzem”. 15.40 „Muzyka, muzyka” (Berlin). 16.50 „Warszawskie Derby” — rep. tv z toru Wyścigów Konnych. 17.40 „Architektura wnętrz Pałacu w Łańcucie” („Piórkiem i węglem”). 18.05 PKF. 18.15 „Spotkanie na przystani”. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Pomyłka szpiega” — film fab. radz. 21.55 Magazyn sportowy. 22.25 Scena Monodram: „Z polskim diabłem”.

**Poniedziałek 5.VII.**

16.45 Program dnia. 16.50 Dziennik. 17.00 Dla dzieci: „Opowieści o zwierzętach” — film. 17.30 „Echo stadionu”. 17.55 Reportaż film. z Mistrzostw Polski w maratonie pływackim na trasie Cedynia — Siekierki. 18.10 „Kino Filmów Animowanych”. 18.45 „Eureka”. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 VIII TV Festiwal Teatrów Dramatycznych: M. Gorki — „Jegor Bułyczow” (przedstawienie przygotowane przez zespół Państw. Teatru im. St. Jaracza w Łodzi). 21.35 „Zielono mi” — koncert muzyki rozrywkowej. 22.10 Dziennik.

**Wtorek 6.VII.**

10.00 „Zejście do piekła” — film fab. polski. 16.45 Program dnia. 16.50 Dziennik. 17.00 „Ludzie z wielkiej wyspy”. 17.30 „Spotkanie z morzem” — film bułg. 17.45 Telewizyjny Ekran Młodych. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Z teki folklorystycznej Adolfa Dygacza” — melodie ludowe polskich hutników szkła. 20.35 „Zejście do piekła” — film fab. pol. 22.00 „Kontakty”. 22.30 Dziennik. 22.45 Kronika Mistrzostw Świata w szermierce.

**Środa 7.VII.**

8.15 Matematyka w szkole: „Algebra zbiorów” cz. I. 9.05 Matematyka w szkole: „Algebra zbiorów” cz. II. 10.00 „Randall i duch Hopkirka” — film ang. 16.45 Program dnia. 16.50 Dziennik. 17.00 „Teleferie”. 18.30 TV Kurier Warszawski. 18.45 „Maszyna da się lubić” („Polak pracuje”). 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Randall i duch Hopkirka” — film ang. 20.55 „Światowid”. 21.30 „Taniec i jazz”. 22.05 Dziennik. 22.20 Kronika Mistrzostw Świata w szermierce.

**Czwartek 8.VII.**

8.15 Matematyka w szkole: „Relacje i ich grafy” cz. I. 9.05 Matematyka w szkole: „Relacje równoważnościowe”. 16.45 Program dnia. 16.50 Dziennik. 17.00 „W noc sylwestrową” — film fab. włoski. 18.25 TV Kurier Białostocki. 18.40 „Jak budują inni” („Mieszkaniowe progi”). 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 „Przypominamy, radzimy”. 20.15 Festiwal Piosenki Żołnierskiej — Kołobrzeg 1971. Koncert inauguracyjny pt. „W żołnierskiej piosence”. W przerwie ok. 21.05 „Rozmowy o książkach”. Po transmisji koncertu ok. 22.50 Dziennik. 23.05 Kronika Mistrzostw Świata w szermierce.

**Piątek 9.VII.**

10.00 „Koronny świadek” — film fab. radz. 16.45 Program dnia. 16.50 Dziennik. 17.00 Dla dzieci: „Pora na Telesfora”. 17.50 „Nie tylko dla pań”. 18.10 TV Kurier Mazowiecki. 18.25 „ABCD — do-re-mi-fa” — program rozrywkowy belg. 18.50 „Polska zza siódmej miedzy”. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 „Muzyka w Kamieniu Pomorskim”. 21.00 „Kraj”. 21.40 „Koronny świadek” — film fab. radz. 22.45 Dziennik. 23.00 Kronika Mistrzostw Świata w szermierce.

**Sobota 10.VII.**

10.00 „Romans z nieznajomym” — film fab. amerykański. 16.10 Program dnia. 16.15 Program tygodnia. 16.35 „Oferty”. 16.50 Dziennik. 17.00 Magazyn ITP. 17.15 „Kaname i Jokichi” — film jap. 18.15 „Tele-Echo”. 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.20 „Leon Wyrwicz”. 21.10 Dziennik. 21.25 Wiadomości sportowe. 21.30 „Romans z nieznajomym” — film fab. amerykański. 23.10 Kronika Mistrzostw Świata w szermierce.




**Piątek, 2 lipca**

8.05 Nowiny. 8.15 Dla uczniów. 8.45 Film fab. 10.00 Koncert. 11.00 Nowiny. 14.55 Program dnia. 15.00 Nowiny. 15.25 Dla dzieci. 15.45 Panorama nowin. 16.00 Film dokumentalny. 17.00 V zjazd pisarzy ZSRR. 17.35 Film fab. 19.00 Czas. 19.30 Artystyczna loteryjka. 20.40 Festiwal przyjaźni. 21.10 Nowiny.

**Sobota, 3 lipca**

8.40 Film animowany dla dzieci. 8.50 Przegląd międzynarodowy. 9.05 Białe i czarne. 9.30 Mówią ulice. 10.00 W świecie sztuki. 10.20 Z historii pieśni radzieckiej. 10.40 Nasza poczta. 11.10 Filmy animowane dla dzieci. 11.30 Dziś dzień spółdzielców. 12.00 Czterej pancerni i pies. 13.50 Na spartakiadzie narodów ZSRR. 14.20 Film dokument. 15.20 Panorama nowin. 15.40 Na spartakiadach republik związkowych. 16.00 Święto sportowe. 18.30 Panorama nowin. 18.50 Szkatułka muzyczna. 19.00 Czas. 19.30 Panorama filmowa. 21.00 Koncert. 21.40 Nowiny.

**Niedziela, 4 lipca**

7.00 Program dnia. 7.15 Nowiny. 7.30 Filmy dla dzieci. 8.15 Kiosk muzyczny. 8.45 W świecie sztuki. 9.05 Program młodzieżowy. 10.00 Dla uczniów. 11.00 Dla żołnierzy. 12.30 Film dokument. 13.30 Czterej pancerni i pies. 14.45 Wystąpienie poetki białoruskiej J. Łoś. 15.15 TV teatr miniatur. 16.00 Nowiny. 16.05 Spotkania muzyczne. 16.35 Klub filmowy. 17.25 Święto literatury. 19.00 Czas. 19.30 Film fab. 21.00 Leningrad wieczorny. 21.45. Nowiny.

# БЕЛАВЕЖА

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 151


## ◆ ПЕРАД БУРАЙ ◆

*Дзесьці стукнула,*
*моцна грукнула,*
*закруцілася,*
*замяло.*
*І павеяла,*
*пакацілася,*
*пыл трубою*
*падняло.*

*Заімжылася,*
*так сцямнілася —*
*нават блізкага*
*не пазнаць.*
*Кроплі дужыя*
*сякуць лужыны,*
*прабіваючы*
*аж да дна.*

*Л. Танкевіч*



## ◆ ПАМЫЛКА ◆

*Сярод натоўпу*
*мільганула на момант*
*Твая сукенка*
*нахабна*
*распіхаю людзей*
*у іх вачах*
*здзіўленне і злосць*
*усё надарэмна*
*дабягаю*
*— гэта не Ты*

*

Табе...
дару спакой
і пах засушаных траў
найлепшае што маю
глянь яшчэ раз
на белыя матылькі
бэз
і сінь неба
глянь яшчэ раз
і ў памяці
запішы...
бо...
заўтра згіне.

*Кастусь Бандарук*

**Наш Каляндар**

# ЯНКА ЛУЧЫНА

(120 ГОД З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ)

Янка Лучына (Іван Люцыянавіч Неслухоўскі) нарадзіўся 6 ліпеня 1851 г. ў Мінску ў сям'і адваката. Вывучыўся ў Мінскай гімназіі, закончыў Пецярбургскі тэхналагічны інстытут (1877). Працаваў інжынерам на каўказскай чыгунцы,пасля ў Мінску ў тэхналагічным бюро Лібава-Роменскай чыгункі.

Паэт-дэмакрат Я. Лучына пісаў на беларускай, рускай і польскай мовах, друкаваў свае творы ў газеце «Минский листок», часопісе «Życie», «Северо-западных календарах» А. І. Слупскага (Мінск, 1891, 1892). Вывучаў вусную творчасць беларускага народа, пісаў драматычныя творы, перакладаў вершы Ул. Сыракомлі. Асобнымі кнігамі выйшлі зборнікі вершаў «Вязанка» (Пецярбург, 1903) і «Poezye» (Варшава, 1898) і аповесць «Верочка» (Масква, 1900).

Памёр Я. Лучына 16 ліпеня 1897 г.

## ◆ РОДНАЙ СТАРОНЦЫ ◆



*Ты параскінулась лесам, балотамі,*
*Выдмай пясчынай, неураджайнаю,*
*Маці-зямліца, і умалотамі*
*Хлеба нам мерку не даш звычайную.*

*А сын твой, беднаю адзет сярмягаю,*
*З лыка пляцёныя лапці абуўшы,*
*Едзе драбінамі ці калымагаю,*
*Конем, што цягне, як бы заснуўшы...*

*Усё ў табе бедна. Часта заплача*
*Мужык араты дзеля злой долі,*
*Цяжка працуючы. Ён жа, аднача,*
*З табой расстацца не ждзе ніколі.*

*І непрыглядную хату з пажыткамі,*
*І поле скупое, выган без пашы*
*Мы, апрануўшыся старымі світкамі,*
*Любім і цэнім — бо яны нашы.*

*Дасць бог крывавым потам аратаму*
*Здабыць пясчану зямліцу здарыцца,*
*Быць добра сытаму, хоць не багатаму,*
*А дзеля празніка і чарка нам*
*зварыцца.*

*Сонца навукі і скрозь хмары цёмныя*
*Прагляне ясна над нашай ніваю,*
*І будуць жыці дзеткі патомныя*
*Добраю доляй — доляй шчасліваю!..*

*Янка Лучына*

*Алесь Барскі*

* ✲ *

*Мы як дзве птушкі*
*ляцім на поўдзень*
*звязаўшыся моцна крыламі*
*ляцім у надзею*
*над намі*
*млечнага шляху завея*
*і смуга ракі*
*пад намі*
*пуцяводныя зоркі*
*у шчасце нас клічуць*
*о колькі зорак*
*о колькі шчасцяў*
*лічы не палічыш*
*зямнымі болей не будзем*
*мы паўптахі паўлюдзі*
*ляцім на паднебным экране*
*той толькі не верыць у цуды*
*хто ніколі не быў закаханы*

* ✲ *

Каханне прыйшло
як прыходзіць прыяцель
як квітненне
у майскія вішні
як сонца ў пшаніцу
з-пад неба
мы адчулі што вусны
не лішнія
мы адчулі што грудзі
патрэбныя
ты прыйшло занялося работай
аб'яднала самоту з самотай
і з палеткаў сэрцаў-адлогаў
пралажыла у радасць
дарогу



*Вершаў аб нас не напішуць*
*паэты вялікія слаўныя*
*не зразумець ім пачуццяў*
*звычайных людзей закаханых*
*таму я пішу аб табе дарагая*
*словы простыя нібы праменні*
*і цвёрдыя нібы каменні*
*словы што не згараюць*
*ты ідзеш праз мяне*
*як сонца ходзіць праз неба*
*ты урасла у мяне*
*як птушка у майскае дрэва*
*ты ва мне як пах жніўня у хлебе*
*як д'ябал у казках зімовых*
*як бог у іконах Рублёва*
*каханне — плод пекла і раю*
*агонь непагасны трывогі*
*глянь як над намі звісаюць*
*рукі д'ябла і рукі бога.*

* ✲ *

Мы так прывыклі да кахання
што нам яно прафесіяй здаецца
давай замкнем яго у клетцы
каб час яго не расцярушыў
на глебе сэрц пасадзім ружы
і вішні яблыні і грушы
і будзем мець уласны сад
з квітненнем
з грушамі
і з мёдам
і з вечнай сонечнай пагодай
і па-мяшчанску будзем шчасны
у садзе вырасшым
з-пад сэрц уласных.

## • СКАРГА •

Танцуюць зоры-карагоды,
Янтарны бераг штосьць
Няспынна шэпча мне.
Імчаць успененыя воды
Нясуць на хвалях скаргі —
пошумы свае.
А нада мною простынь неба
І месяц-цар спакон вякоў.
Не важна! Трэба, ці не трэба,
Я аддаю яму паклон.
Здаровы будзь! — Кароль прыроды,
Маёй душы святло-гігант.
Табе не страшны непагоды,
Ты бясклапотны зор амант.
Як добра жыць табе высока
Бліішчэць лысінаю
За шырмай буйных хмар.
Шчаслівы ты, што так далёка,
Непераможаны нямой імперыі цар.
І раптам скаргі тон пачуўся:
« — Я быў шчаслівы па той век,
Пакуль рукой не дакрануўся
Да маёй шкуры чалавек».
І ўбіўшы твар ў падушкі-хмары
Стаў не пацешаны,
Заліўся градам слёз...
Трываў ў істэрыі разгары,
Што з чалавекам спалучыўся яго лёс.
«Вы — людзі — жадныя істоты.
Я спачуваў сястры-Зямлі,
Аж сам адчуў ваш жорсткі дотык —
Не зношу запаху крыві.
Па свеце ходзяць гора стаі,
Па людзях людзі губяць след,
Людзі такімі сёння сталі,
Што знаць не хоча іх сусвет.
О! Чалавеча! Ты прымі маё маленне
І захавай ў душы сваёй на век.
Дай вырасці такому пакаленню,
Каб не баяўся яго свет ані сусвет!»

*Зося Стаськевіч*

46.

— А ну, Васюкоў, глянь! У цябе зрок востры.

Сказана тое было зноў па-сяброўску, нібы да роўнага. Я старанна ўгледзеўся ў шэры прыцемак, у якім слаба мроілася воддаль нешта падобнае на кустоўе ці, можа, пагорак. Але нічога, што б выдавала там прысутнасць жывога, я не заўважыў.

— Ну, бачыш?

— Не.

Ананьеў нахмурыўся, счакаў і зласнавата кінуў Піліпенку:

— Нясі кулямёт!

Піліпенка моўчкі падаўся па траншэі і неўзабаве прывалок РПД з прымкнёным магазінам. Камандзір роты хутка прыладзіў яго на брустверы.

— А ну, паназірайце!

Чарга амаль громам разарвала начную ціш, чырвоныя водбліскі ад ствала ліхаманкава заскакалі па брустверы, у траншэю сыпанула жменю гарачых смярдзючых гільзаў. Счакаўшы, пакуль у далечы заглухне рэха, Ананьеў адняў ад пляча прыклад і выпрастаўся.

— Ну, што?

— А нычога, — сказаў Піліпенка. — Ні гу-гу.

— Гадства! — падумаўшы, — вылаяўся камандзір роты.

Яму ніхто не адказаў. Усе моўчкі стаялі, не ведаючы. што прыдумаць, каб адгадаць гэтую трывожную загадку ночы. Тады ад бруствера павярнуўся Ванін, які дагэтуль сціпла стаяў побач з Ананьевым у сваёй кароценькай ватоўцы.

— Дайце я схаджу, — сказаў ён проста, нібы гутарка ішла аб якой драбязе. — Калі што — кулямётам...

Заклапочаны, Ананьеў няўцямна зірнуў на яго.

—Давай! — раптам нібы ўзрадавана сказаў ён. Грыневіч, аднак, запярэчыў.

— Адзін? Не паложана. Два трэба.

Ванін азірнуўся.

— Пласкуноў, айда!

Невялічкі крываногі аўтаматчык Пласкуноў, што стаяў ззаду ў непадпяразаным шынялі, нерашуча пераступіў з нагі на нагу. У адной руцэ ён трымаў жалезную скрынку з дыскамі ад РПД.

— Дык я гэта...

— Шчо — ты? — злосна гыркнуў да яго Піліпенка.

— Дык гэта... кулямёт.

— Нэ втэчэ твій кулэмэт. Бэры автамат і дуй.

Ванін тым часам выняў з кішэні гранату і дакладным рухам уставіў у яе запал. Гранату планкай начапіў на дзягу ля спражкі.

Пласкуноў яшчэ раз пакутліва пераступіў, азірнуўся. Уся яго худзенькая постаць была ўвасабленнем нерашучасці. З натугай асільваючы яе, баец зняў з пляча аўтамат, паправіў шапку і, калі Ванін, абапёршыся каленам аб край брустверы, вылез наверх, таксама пачаў выбірацца з траншэі.

Ванін прыпыніўся, ступіў да камандзіра роты.

48.

пастаяў у траншэі, не ведаючы, што сказаць напаследак. Напэўна, адчуваючы маю нерашучасць, Ананьеў павярнуўся ад кулямёта.

— Давай, давай! Пакуль ціха, — сказаў ён амаль спакойна. І ўсё ж я добра ведаў камроты, каб не адчуць у яго тоне старанна прыхаваныя ноткі трывогі. Зрэшты, і ў выглядзе яго нешта сведчыла аб непакоі. Я проста не памятаў яго такім рэзкім у рухах і словах. Нечакана для самога сябе і, мабыць, упершыню я зразумеў, што зусім ён не такі самаўпэўнены і ўладарны, якім заўжды мне здаваўся. Гэтае адкрыццё жаллівай панылацю кранула мае пачуцці, але, знешне не выдаючы таго, я сказаў:

— Ну што ж... Тады — да пабачэння...

— Давай лячыся...

Ён коратка і амаль абыякава паціснуў маю руку і зноў павярнуўся да змрочнай далечы. Моўчкі, не выходзячы з-пад улады звычайнай напускной незадаволенасці, падаў мне шырокую далонь Піліпенка, стрымана кіўнуў галавой Грыневіч. Затым я таропка паціснуў сцюдзёныя рукі байцоў, якія маўкліва праводзілі мяне занадта ўважлівымі позіркамі.

Ідучы назад па траншэі, я ўсё ўслухоўваўся, але трывогі пакуль не было, аўтаматчыкі па-ранейшаму сцішана праседжвалі ноч: тупалі, курылі, а некаторыя, не гледзячы ні на што, спалі, скурчыўшыся ў сваіх ячэйках. Цяпер, усе яны — знаёмыя і незнаёмыя, — адсоўваліся ад мяне ў мінулае, у маё былое і сваё будучае, але без мяне, бо праз гадзіну я, мабыць, буду адсюль далёка.

З новым клопатам я рвануў з уваходу палатку і ўлез у бліндаж.

* ✲ *

Параненыя хутка паўставалі, разабралі зброю. Мы расштурхалі немца і павылазілі ў траншэю. Обер-фельдфебель трохі праспаўся і, мабыць, працверазеў, бо хоць не адразу, але ўсё ж выконваў нашы каманды. Праўда, ісці яму было цяжка, ён амаль не прыступаў на параненую нагу і скакаў на адной, перабіраючы па сценах рукамі.

Тым часам займаўся світанак.

Неба паяснела, на ўсходзе стаў бачны край лесу над пагоркам, дзе была дарога: з шэрага змроку нясмела яшчэ выплываў аснежаны прыцьмелы прастор. Было ветрана, сцюдзёна, снег, аднак, не ішоў. Можа нават падмарожвала, але толькі ледзь-ледзь.

Мы трохі прайшлі па траншэі, далей трэба было вылазіць наверх. Цвяткоў першы ўскочыў на бруствер і падаў мне руку. Затым выбраўся аўтаматчык з абвязанай бінтамі галавой. Удвох яны вывалаклі другога аўтаматчыка і працяглі рукі немцу.

Обер-фельдфебель нерашуча паглядзеў знізу ўгору — наўрад ці ён зразумеў, куды яго вялі, мабыць, думаў, расстрэльваць, і толькі цяпер пачынаў аб чымсьці здагадвацца.

— Ну, што лыпалы выкаціў? Давай руку.

ПА БЕЛАРУСКІХ КУРОРТАХ

# ◆ НАРАЧ ◆



*Зона адпачынку ў раёне возера Нарач звязана са сталіцай рэспублікі Мінскам авіяцыйным, чыгуначным і аўтобусным транспартам.*



*Від на возера Нарач.*



*Корпусы санаторыя «Нарач».*



*Летнія дачы працаўнікоў выдавецтва «Звязда».*

## КУТОК ГАСПАДЫНІ
## ШТО РАБІЦЬ, КАБ ДОБРА ЗВАРЫЦЬ

### БУТЭРБРОДЫ З ТВАРАГОМ

Сыр, тварог, кіслае малако — гэта неабходныя ў штодзённым меню прадукты, а асабліва ў час летняй спякоты. Яны лёгка прысвойваюцца арганізмам, не патрабуюць вялікай працы, а самае галоўнае — вельмі танныя. Зрэшты, не забракне малочных прадуктаў у ніводнай сялянскай хаце. Напрыклад, са звычайнага тварагу можна зрабіць вельмі разнастайныя бутэрброды, якімі можна сілкавацца як ранкам, так і ўвечары.

1. Свежы тварог расцерці са змеленай шынкай або каўбасой (калі тварог занадта сухі, дадаць 1—2 лыжкі смятаны, палажыць на хлеб, памазаны маслам, наверсе палажыць некалькі скрылёчкаў свежага, неабабранага агурка, пасаліць.

2. Свежы, някіслы тварог расцерці з 1—2 лыжкамі смятаны і соллю, палажыць на лустачкі чорнага хлеба, на гэта палажыць некалькі скрылёчкаў крутога яечка і паўтыкаць шмат скрылёчкаў радыскі. Пасыпаць зверху соллю і перцам, а таксама дробна нарэзанай зялёнай цыбулькай.

3. Тварог, падрыхтаваны, як было сказана вышэй, расцерці з невялікай колькасцю змеленай папрыкі, палажыць на хлеб, у некалькіх месцах выціснуць сардэлевай пасты, а на сярэдзіне палажыць кавалак памідора. Бутэрброды гэтыя добра было б прыбраць галінкамі зялёнай пятрушкі.

4. Свежы тварог расцерці са смятанай і соллю, палажыць на хлеб, паўтыкасць скрылёчкі марынаванага або маласольнага агурка, прыбраць палоскамі варанай морквы, пасыпаць кменам.

5. Тварог, падрыхтаваны, як вышэй, палажыць на хлеб, на сярэдзіне ўваткнуць палавінкі скрылёчкаў памідораў, пасыпаць вараным гарошкам і дробна нарэзанай зялёнай пятрушкай. Зверху пасыпаць бутэрброды соллю і перцам.

6. Тварог, расцерты са смятанай, вымяшаць з вельмі дробна нарэзанай зялёнай цыбулькай, кменам, соллю і перцам. Палажыць на тонкіх лустачках чорнага хлеба, прыбраць палоскамі зялёнай і чырвонай папрыкі (свежай або марынаванай).

Карыстаючыся сезонам, неабходна бутэрброды рабіць з вялікай колькасцю зеляніны, якая не толькі дадасць смаку бутэрброду, але і запоўніць арганізму неабходную колькасць вітамінаў.

*Гаспадыня*

## ці ведаеце, што...

*...першы тэлевізійны паказ адбыўся ў Нямеччыне ў 1926 годзе, першыя спробы ўвядзення колеру задэманстраваны ў ЗША ў 1940 годзе.*

*...найлепшая для вачэй адлегласць ад тэлевізійнага экрана, напрыклад перад 21-цалёвым тэлевізарам, гэта адлегласць у 2,50 м.*

# ЧАМУ СМЯЕЦЦА ЧАЛАВЕК?

Тое, што з усіх жывых істот смяецца толькі чалавек, мы ведаем даўно і добра. Што людзі смяюцца кожны на свой лад з аднаго і таго ж, мы, здаецца, таксама ведаем. Але чаму людзі смяюцца?

На такое пытанне не так лёгка адказаць, бо дагэтуль вельмі мала чаго напісана на гэту тэму. Сапраўды, каб хто сабраў усе кніжкі, у якіх гаворыцца пра смех і яго прычыны, яны змясціліся б у маленькім пакойчыку, у той час як аб трагічным напісаны стосы кніг, для якіх і цэлага квартала будынкаў не хапіла б. Чамусьці мала хто імкнуўся пранікнуць у цудоўныя тайны весялосці, раскрыць прыроду стрыманай іранічнай усмешкі, гнеўнага смеху сатыры, магічнай сілы гумару — гэтага праяўлення чалавечай мудрасці.

Чаму ж смяецца чалавек?

Ён смяецца, калі яго шчыкочуць. А таксама тады, калі побач смяецца хто іншы — ён далучаецца да яго, хоць толкам не ведае, з чаго той смяецца.

Пра такі смех я гаварыць тут не буду — пусты гэта і беспрычынны смех. У апошні час, праўда, паўсюдна загаварылі пра «заразлівы смех» — па тэлебачанню, па радыё, ды і ў газетах пішуць. Адзін амерыканскі прафесар, напрыклад, прапануе прадаваць грампласцінкі, з якіх павінен гучаць смех «на ўсё горла». Ён лічыць, што такая «смехпласцінка» будзе незвычайна дабратворна ўплываць на шызафрэнікаў, няшчасных закаханых, пакінутых жонак, знямоглых жыхароў вялікіх гарадоў і людзей з комплексам непаўнацэннасці. Урач піша на рэцэпце: «Смехапласцінка № 5» — два разы на дзень пасля ежы», і хворы ідзе ў аптэку, купляе пласцінку і смяецца сабе на здароўе. Яму не патрэбны ні сіла духа, ні сустрэчы з людзьмі, ні тэатр, ні кнігі — ён проста ставіць пласцінку і лечыцца смехам.

Але з чаго смяецца чалавек, калі і сэрца і розум яго ўдзельнічаюць у смеху, вось што цікавіць мяне.

І я адкажу, у агульных праўда, словах, — ён смяецца з кантрасту! Вядома, не з кожнага кантрасту. Але калі яго ўжо разбірае смех, значыць, прычынай з'яўляецца кантраст, і няважна, што гэта «калізія дзвюх процілегласцей» адбываецца ў тэатры ці на вуліцы, на старонках сатырычнага часопіса ці ў рамане. Не мае значэння і тое, што кантраст можа быць выпадковым альбо штучна створаным.

# ТРЫБУНА чытачоў

## САМАРОДНЫ ЭЛЕКТРЫК

Іван Леўчук у Дубічах Царкоўных жыве ў канцы вёскі, і адсюль электрычная лінія праходзіць далекавата. Нязручна правесці сюды ток, задорага будзе каштаваць для селяніна. Аднак І. Леўчук мае электрычнае святло, сам яго зрабіў, і лямпачкі зіхацяць у яго хаце.

Сваю «электрастанцыю» зрабіў большменш так: акумулятар — батарэю ад самахода (што дае ток для лямпачак) пастаянна наганяе зроблены вятрак, які безупынна круціцца на даху хлява, да якога далучаны каблі. Усё гэта зроблена вельмі дакладна і дасканала. Таксама ў хаце інсталяцыя нічуць не розніцца ад інсталяцыі манцёраў. Ды што і гаварыць, Іван Леўчук майстар да ўсяго: ён і мхляр, і пячнік, і іншыя работы можа выканаць.

Працуе І. Леўчук у мясцовым прэзідыуме ГРН сакратаром. В. Б.

## З БЕЛЬШЧЫНЫ

10 чэрвеня ў Войшках рэарганізаваўся гурток БГКТ. Адбыўся сход моладзі. Старшынёй гуртка цяпер з'яўляецца Вавдзейчук Ірына, сакратаром — Валя Сяргеюк і скарбнікамі Бручко Жэня і Ляшэўскі Сцёпа. Сход адбыўся ў школе. Новыя члены (24 асобы) сардэчна зацікавіліся працай ў гуртку, высоўвалі цікавыя прапановы, як арганізаваць вечарыны, акадэміі. На сходзе, які адбудзецца 12 ліпеня, будзе абмяркоўвацца важная справа: збіранне фальклорнага матэрыялу ў вёсцы. Цікавы праект, таму што фальклор наш гіне з кожным годам і арганізаваная яго ахова прынясе карысць нашым нашчадкам.

Не менш важнымі былі разважанні над спосабам пабудовы святліцы ў Войшках. Тут паявілася вялікае зацікаўленне моладзі. Як хлопцы, так і дзяўчаты выказаліся, што большую частку работ зрабілася б грамадскім чынам, бяда ў тым, што ГРН у Рыбалах не вельмі да гэтай справы прыхіляецца. Моладзь не апускае рук і будзе з большай актыўнасцю дабівацца, каб у роднай вёсцы паўстала святліца. На заканчэнне дзяўчаты праспявалі беларускую песню. А потым сабраныя доўга распытвалі, што могуць і што павінны рабіць.

*Вераніка Леанюк*

## ДА ХРОНІКІ БГКТ

2.VI.71 г. ў бельскім аддзеле БГКТ адбылося пасяджэнне рэвізійнай камісіі, у якой прынялі ўдзел: грам. грам. Куна Уладзімір, Анапюк Пятро, прадстаўнік Галоўнай рэвізійнай камісіі грам. Лідзія Бялецкая і інструктар на Бельскі павет.

7.VI.71 г. у памяшканні беларускага ліцэя ў Бельску адбылося пасяджэнне прэзідыума бельскага аддзела ў сувязі з падрыхтоўкай да фэстыну ў Орлі. На пасяджэнні былі прысутныя: тав. Ю. Альшэўскі, А. Куна, А. Карпюк, Я. Суліма і В. Леанюк. Прэзідыум вырашыў правесці выязное пасяджэнне з удзелам прадстаўнікоў устаноў, якія прымуць удзел у арганізаванні фэстыну.

*В. Леанюк*

## ТЫНКУЕЦЦА І МУЛУЕЦЦА

У Войшках ёсць пажарная каманда. Аб гэтым можна здагадацца, калі праходзіш каля крамы. Побач яе прыгожа вылажаны бетонны басейн. Толькі цікавая справа, дзе браць ваду ў выпадку пажару? Калі я прыглядзелася, то вады было толькі на дне і да таго зарасла яна «жабарэннем». Гэта ўжо сведчыць аб тым, што пажарная каманда распалася на часці, або забыліся тут пра грамадскія чыны. Ачніцеся, пажарнікі! Дакончце тынкаваць памяшканне на стражацкія прылады. Палічыце, тынкаванне цягнецца больш трох год, а памяшканне ж невялічкае, ды ачысцьце басейн ад мулу. Лета ж на дварэ і небяспека пажараў. В.Л.

## АЎТАРЫ З БЯЛЕВІЧ

Мы ўжо не раз прыпаміналі, што ананімных лістаў не друкуем. Таму, на наш вялікі жаль (маглі б вы быць добрымі карэспандэнтамі), вымушаны ваш ліст адправіць туды, куды адпраўляем усе непадпісаныя лісты — у рэдакцыйны кошык.




*Дарагое Сэрцайка!*

Калі я прачытала апошняе пісьмо «Сардэчных тайнаў», рашыла і я напісаць да цябе, дарагое Сэрцайка. Мне 15 год. Нядаўна я пасябравала са Сцёпай, які пражывае ў той жа самай вёсцы, што я. Мне вельмі падабаецца характар Сцёпы, ён ветлівы, спакойны, не курыць папяросаў і не п'е гарэлкі. Штовечар ён прыходзіць да мяне, і мы разам сядзім увечары на лавачцы, што каля мае хаты.

Нядаўна было ў нас свята, а затым адбылася забава. На забаве я пазнаёмілася з другім хлопцам. Ён хлапец вясёлы, прыгожы, толькі курыць папяросы і п'е гарэлку. А Сцёпа на многа старэйшы за мяне (25 год) і непрыгожы, толькі, як я ўжо сказала, мае добры характар.

Парай Сэрцайка, з якім з іх «хадзіць».

*Люся з Гайнаўшчыны*

Люся! На маю думку, дык не трэба «хадзіць» ні з адным, ні з другім. Бо адзін і другі табе не раўня. Гэта ж ужо людзі дарослыя, а ты — вучаніца. Якія ж у вас тады могуць быць супольныя тэмы? Сябраваць можна з калегам са школы, тады ёсць аб чым гаварыць, дыскутаваць. Здзіўляе мяне таксама, што ты ходзіш на забавы, як дарослая дзяўчына. Чаму? У вас жа, напэўна, бываюць у школе свае «разрыўкі», дзе можна пагуляць, паспяваць ці дэкламаваць вершы. Раю табе ўсё перадумаць і... паправіцца ў паступках.

*Сэрцайка*

## АФІЦЫЯНТКА ЗОСЯ



Наколькі прыемней, весялей жылося б, каб усе людзі былі ветлівыя, каб у аўтобусе, у краме, ва ўстанове ці на прадпрыемстве спатыкаліся мы з сардэчнасцю, добразычлівасцю, усмешкаю. Гэтыя якасці неабходныя на штодзень у жыцці, у адносінах паміж людзьмі.

У Белавежы ў рэстаране «Іва» працуе афіцыянткай Зося Валкавыцкая. Яна ветліва абслугоўвае кліентаў. Здаецца, што тыя ці іншыя патравы, пададзеныя яе рукою, робяцца смачнейшымі — яна ласкава гляне, ласкавае слова «прыемнага апетыту» скажа, ветліва адазвецца і адкажа на пытанне.

Працуе яна афіцыянткай ужо 10 год. У «Гайнавянцы» ў Гайнаўцы працавала яна 4 гады на гэтай пасадзе. Сталыя кліенты і тыя, якія яе ведалі, заўсёды стараліся сесці за тыя сталы, якія абслугоўвала пані Зося. Бо вельмі важна з'есці абед у добрым настроі, а вось менавіта такі настрой пані Зося сваёю ветлівасцю выклікала.

4 гады таксама Зося Валкавыцкая працавала ў сталовай «Турыстычная» ў Белавежы і ўжо два гады яна дасканала спраўляецца са сваімі абавязкамі ў рэстаране «Іва». (мх)



*Касьба.* *Фота: Я. Цялушэцкі*

## ЖАНЧЫНЫ З ЧЫЖОЎ

Добра працуе гурток вясковых гаспадынь (КГВ) у Чыжах, Гайнаўскага павета. Налічвае ён 62 асобы. Працай гуртка кіруе Марыя Іргановіч — старшыня КГВ. Апрача яе, актыўныя тут перш за ўсё жанчыны: Зіна Хмель, Лідзія Гаўрылюк, Зося Ягадніцкая, Зіна Мазала і іншыя.

Жанчыны з Чыжоў арганізавалі ў сябе каўбасныя, шавецкія курсы, а таксама курсы вышывання. Штогод арганізуюць яны на час руплівых палявых работ вясковыя дзяцінцы, з якіх карыстаецца ў сярэднім 25 дзяцей. У лютым г.г. жанчыны з КГВ арганізавалі ў сябе супольную гадоўлю куранят у колькасці 600 штук. Ранняй вясной вырасцілі яны ў інспектах сотні кусцікаў расады капусты, а таксама пасадзілі розныя сарты малавядомай агародніны. Каб павысіць свой супольны фонд, чыжоўскія кабеты пасеялі ў гэтым годзе 2 гектары ільну. Зараз прадбачваецца добры яго ўраджай. Восенню жанчыны намераны навучыцца, як падаваць на стол малавядомую агародніну. Намераны яны таксама арганізаваць экскурсію ў Варшаву, паколькі многія з іх не былі яшчэ ў нашай сталіцы. (яц)

## ЦІ ВЕДАЕЦЕ ШТО...

...паўмільёна загалоўкаў кніжак у агульным тыражы 8 мільёнаў экземпляраў выдана ў мінулым годзе. Гэтыя тыражы канцэнтруюцца перш за ўсё ў 32 краінах, дзе выдаецца 80% агульнай колькасці сусветнага тыражу. (яц)

## ДЗЕНЬ СПОРТУ



5 чэрвеня г.г. у беларускім ліцэі ў Гайнаўцы быў дзень спорту. У гэты дзень адбыўся валейбольны матч паміж дружынамі дзяўчат і хлопцаў. Пасля ўпартай барацьбы (на здымку) перамаглі дзяўчаты 2:0. Вёў матч заслужаны трэнер мгр. Мікалай Врублеўскі.

*Тэкст і фота В. Бура*

---

Смяюцца з Мальволіо — аднаго з герояў «Дванаццатай ночы» Шэкспіра, калі той заляцаецца да Алівіі, бо яго ашукалі, сказаўшы, што дзяўчына кахае яго; смяюцца і з Алівіі, якая не ведае пра гэтыя штучкі і думае, што Мальволіо раптам з глузду з'ехаў. Смяюцца з камедыйнага акцёра, які ноччу ў атэлі памыляецца нумарам. Смяюцца, чытаючы творы Марка Твэна ці разглядаючы шаржы і карыкатуры Анарэ Дам'е. Смяюцца з франта, які шпацыруе, задраўшы нос, не ведаючы, што на яго новым капелюшы матляецца гандлёвая бірка. Ёсць і іншыя прычыны смяяцца, усміхацца і рагатаць.

Неабавязкова ўсякі кантраст выклікае смех. З тоўстага, напрыклад, коміка, які ў споднім уваходзіць у абедзенную залу, я ўжо з васьмі год не смяюся. Аднак, калі людзі ўжо смяюцца, дык смяюцца яны з кантрасту. І той, хто пры жарце альбо тонкай іроніі не заўважае гэтага кантрасту, міжволі застаецца сур'ёзным — яму не да смеху.

*Эрых Кэстнер*

## ЧЫН

Гурток БГКТ і ЛьЗС у Крывяцічах арганізаваў 23.05.71 г. і 30.05.71 г. чын па ўпарадкаванню пляцоўкі для спартыўных гульняў. Пляцоўка для ігры ў футбол была грунтоўна адноўлена. У грамадскім чыне прымала ўдзел каля 40 асоб. Вартасць працы ацэньваецца 7 тысячамі злотых. У правядзенні чыну памагалі Глінка Аляксей і Мікалай Мураўка, якія кіруюць сельскагаспадарчым гуртком (пазычалі трактары, каб навазіць жвіру). Да крывяціцкага гуртка ЛьЗС належаць таксама хлопцы з вёскі Мора.

## ПАТРЭБНА САЖАЛКА

Многа гаварылася ў Крывяцічах аб патрэбе стварэння супрацьпажарнай каманды. Бяда аднак у тым, што ў Крывяцічах няма сажалкі для супрацьпажарных мэтаў. Сельскагаспадарчы гурток абяцаў дапамагчы — даць трактары для вывазу зямлі. Аднак пакуль што сяляне Крывяціч не спяшаюцца капаць сажалку. А яна вельмі нам патрэбная.

*Ваня Кірызюк*

## ПЕРСПЕКТЫВЫ ВЁСКІ

Каб павялічыўся надой малака ад кароў і каб жывёлагадоўля пашыралася, жыхары вёскі Рэдуты (Бельскі павет) у мінулым годзе загаспадарылі сялянскую пашу ва ўрочышчы «Выган», размешчаны каля самай вёскі. Пасеялі тут высокаякасную траву і вырасла яна, як на дзіва, вялікая, густая. Цяпер гэты кавалак (каля 30 га) жыхары Рэдутаў падзялілі паміж сабою і кожнаму выпала больш-менш каля 0,25 га. Гэта нешта значыць, бо з такога кавалка будзе 2—3 фуры добрага сена. В. Б.

# КІНО

## ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**

„Odraza" (węgierski), 6—7. „Jeśli dziś wtorek to jesteśmy w Belgii" (ang.), 8—9. „Fraulein Doktor" (jugosłowiański), 10—11.

**Нараўка**

„Jarzębina czerwona" (polski), „Los człowieka" (radz.), 7—11.

**Нарва**

„Dziura w ziemi" (polski), „Nie wspominać o przyczynie śmierci" (jugosłowiański), 7—11.

**Чыжы**

„Nieśmiertelni Flip i Flap" (USA), „Wielka miłość" (franc.), 7—11.

**Дубічы Царкоўныя**

„Co wieczór o 11-tej" (radz.), „Nie smuć się" (radz.), 7—11.

## БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**

„Popierajcie swego szeryfa" (USA), „Życie, miłość i śmierć" (franc.), 7—11.

**Орля**

„Labirynt miłości" (radz.), „I znów z tobą" (węgierski), 7—11.

**Райск**

„Dżamila" (radz.), „Gang Olsena" (duński), 7—11.

## САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**

„Otello z prowincji" (węgierski), 6—7. „Ranny w lesie" (pol.), 8—9. „Wahadło" (USA), 10—11.

**Янаў**

„Pejzaż z bohaterem" (polski), 7—11.

## СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**

„Panowie z kompleksami" (włoski), 6—7. „Lucia" (kubański), 8—9. „Kto wierzy w bociany" (polski), 10—11.

**Мельнік**

„Skarb bizantyjskiego kupca" (czeski), 6—7. „Pippi" (włoski), 8—9. „Wahadło" (USA), 10—11.

**Мілейчыцы**

„Niepokoje wychowanka Torlesa" (NRF), 6—7. „Sklep z modelkami" (USA), 8—9. „Kto wierzy w bociany" (polski), 10—11.

Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wrzystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO 1-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23.

BZGraf. Nakład 5.712 E-3

# ◆ БУТЭЛЬКА ◆

Нядаўна на вуліцы нейкі хлопец бутэльку разбіў. Штосьці ён нёс. Я не ведаю. Газу або бензін. Або можа ліманад. Адным словам, нейкі прахаладжальны напітак. Час гарачы. Піць хочацца.

Дык вось, ішоў гэты хлопец, заглядзеўся і трахнуў бутэльку на тратуар.

І такая, ведаеце, шэрасць. Няма таго, каб нагой асколкі з тратуара спіхнуць. Ну! Разбіў, чорт такі, і пайшоў далей. А іншыя прахожыя так, значыцца, і ходзяць па гэтых асколках. Вельмі міла. Прысеў я тады наўмысна на тумбу ля варот, што далей будзе.

Бачу — народ ходзіць па шкле. Лаецца, але ходзіць. І такая, ведаеце, шэрасць. Ніводнага чалавека не знаходзіцца грамадскую павіннасць выканаць.

Ну ці ж цяжка гэта? Ну ўзяў бы — спыніўся на некалькі секунд і спіхнуў бы асколкі з тратуара той жа шапкай. Дык не, ідуць міма. Не, думаю, мілыя! Не разумеем мы яшчэ грамадскіх заданняў. Прэмся па шкле.

А тут яшчэ, бачу, нейкія хлапчукі спыніліся.

— Эх, — кажуць, — шкада, што босых цяпер мала. А то, — кажуць, — вось бы здорава наляцець можна.

І раптам ідзе чалавек.

Зусім простага, пралетарскага выгляду чалавек.

Спыняецца гэты чалавек каля гэтай разбітай бутэлькі. Круціць сваёй мілай галавой. Пакрэкваючы, нахіляецца і газецінай змятае асколкі ўбок.

Вось, думаю, здорава! Дарэмна хваляваўся. Не астыла яшчэ свядомасць у масах.

І раптам падыходзіць да гэтага простага чалавека міліцыянер і яго прабірае:

— Ты што ж гэта, — гаворыць, — курыная галава? Я табе загадаў падабраць асколкі, а ты ўбок сыплеш. Калі ты дворнік гэтага дома, ты павінен свой раён ачышчаць ад свайго лішняга шкла.

Дворнік, мармычучы сабе штосьці пад нос, пайшоў у двор і праз мінуту зноў з'явіўся з мятлой і бляшаным шуфлікам. І пачаў прыбіраць. А я доўга яшчэ, пакуль мяне не прагналі, сядзеў на тумбе і думаў пра ўсялякае глупства. А ведаеце, бадай, самае дзіўнае ў гэтай гісторыі тое, што міліцыянер загадаў прыбраць шкло.

*Міхаіл Зошчанка*










Гэту фігуру раздзяліце чатырма лініямі. З атрыманых частак злажыце квадрат так, каб у любой палавіне квадрата было па 12 кружкоў, а па двух дыяганалях — 8.

* ✲ *

*Адказ на заданне з папярэдняга нумара:*
*На дзяленні № 2.*

### ЦЯРПЛІВЫ

— Вы хочаце стаць маёй жонкай?
— Дык мы знаёмы толькі два дні!
— Ну, добра, я магу пачакаць яшчэ дзянёк...

### ДЫСЦЫПЛІНАВАНЫ

Старшыня пээтэгэсу сабраў усіх шафёраў і строга папярэдзіў, каб, маўляў, за кіраўніцай не было ніводнага п'янага, а калі пасля працы недзе трапіцца выпіць, дык прыдзі на другі дзень у кантору і скажы: «Таварыш старшыня, я быў учора п'яны».

Вось адзін шафёр напіўся вечарам, а потым раніцай устаў, добра пахмяліўся, пайшоў да старшыні пээтэгэсу і сказаў:
— Таварыш старшыня, я ўчора быў п'яны!
— Ты і сёння п'яны!
— А пра гэта я вам заўтра паведамлю, — сказаў шафёр.

# ПА САКРЭТУ

З расказа загадчыка базы

Тавар заляжалы —
Звычайна мыла —
Збываць трэба неяк,
Хоць міла, не міла.

І чутку пускаю,
Як нейкую тайну,
Што фабрыка стала —
Рамонт капітальны.

Перш жонцы пра гэта
Сказаў па сакрэту.

А жонка — сяброўцы
Адразу ж, вядома:
— Глядзі, — па сакрэту...
— Дальбог жа, нікому...

Сяброўка — сваёй
Расказала сяброўцы:
— Глядзі, па сакрэту...
— Нікому ні слоўца...

А тая — сваячцы
Пад чэснае слова:
— Глядзі, па сакрэту...
— Была б я здарова...

Сваячка — суседцы
З усёй засцярогай:
— Глядзі, па сакрэту...
— Пабойся ты бога...

Суседка — суседцы
Сказаўшы, прасіла:
— Глядзі, па сакрэту...
— Маўчу, як магіла...

Пай-шло-о маё мыла!

Каб толькі між намі —
Скажу па сакрэту:
Тавар заляжалы
Яшчэ ёсць, кабеты!

*Генадзь Кляўко*



### У ЗААПАРКУ

У заапарку нарадзіўся шымпанзе. Стары шымпанзе з неадабрэннем паглядзеў на свайго патомка.

— Не хвалюйся, — пашаптала яго жонка, — у першыя дні кожная малпа выглядае, як маленькі чалавек, а потым усё праходзіць.

### ПРЫЧЫНА

— Эх, цудоўная была футбольная дружына ў нашым горадзе! Чаму аб ёй цяпер нічога не чуваць?
— Распалася.
— Ігракі пастарэлі? Ці іх пераманілі ў іншыя гарады?
— Ды не! Проста ўкралі мяч.

### ПАГНЕВАЎСЯ

Кастусь вяртае Васілю 100 злотых, якія месяц таму назад у яго пазычыў. Васіль з радасцю ляснуў сабе па лобе:
— Вачыш ты, а я ўжо зусім забыў пра іх.
— Ну, ведаеш, пра гэта ты мог сказаць і раней, — пагневаўся Кастусь.

### ХВІЛІНКА

Нейк маці са сваім васьмігадовым сынам паехала ў горад. Сын убачыў на адным з будынкаў надпіс: «Хвілінка» і спытаў:
— Мама, а што гэта значыць — «хвілінка?»
Маці адказала:
— Гэта, сынку, такі рэстаран, дзе гадзіну трэба чакаць абеду, а хвілінку есці.



— *Чаго раскрычаліся?*
— *А мы гуляем у магазін.*

### У СУДЗЕ

Сміт падаў у суд на Браўна за знявагу. Суддзя сказаў Браўну:
— Вы назвалі свайго сабаку Сміт і пастаянна крычалі ёй: «Фу, Сміт, фу, нягоднік!» Гэтым вы яўна хацелі абразіць суседа.
— Вы памыляецеся, — запратэставаў Браўн. — Я хацеў абразіць сабаку.

### АБОЕ РАБОЕ

Жонка: — Я патрабую, каб нас развялі: муж без майго ведама прадаў кухонныя каструлі, а грошы прапіў.

Муж: — Я таксама прашу развесці нас: продаж каструль жонка прыкмеціла толькі на шаснаццаты дзень!

### ЗАКЛАД

Габравец і шатландзец зрабілі заклад, хто даўжэй пражыве без ежы. Праз месяц памёр з голаду шатландзец, прызнаўшы сябе, такім чынам, пераможцам. Услед за ім памёр і габравец. Але памёр з роспачы: цяпер яму не было ад каго атрымаць свой выйгрыш.



— *Гэта ты абрэзаў сетку, нягоднік?*
— *Не сярдуй, мамачка, я хацеў зрабіць з яе баскетбольную карзінку.*

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Марысі і Веры Манцюк, а таксама Надзі Нікалаюк з вёскі Мікулічы, Сямяціцкага павета, змяшчаем песню:

# МЯЦЕЛІЦА

*Словы А. Дзеружынскага*
*Музыка М. Шумiлiна*

Ой, мяцеліца,
Ой, мяцеліца
Ўсе дарожкі замяла.
Як мне, дзяўчыне,
Як мне, дзяўчыне,
Ехаць з любым да сяла?

Я сняжыначкі,
Я сняжыначкі
Сваім сэрцам растаплю,
Ведай, міленькі,
Ведай, міленькі,
Цябе моцна я люблю.

Ой, мяцеліца,
Ой, мяцеліца
Пагуляла і пайшла...
А вяселейка,
А вяселейка
Едзе з песняй да сяла.

### АДНАДУМСТВА

Інстытут грамадскай думкі правёў апытанні сярод маладажонаў: хто павінен быць асноўным і стальным кармілецам сям'і?

— Хай заўжды будзе мама! — аднадумны адказ апытаных.

### РЫБАК

Пажылы рыбак, па прафесіі настаўнік, злавіў маленькага сома, палюбаваўся ім і затым, кінуўшы яго назад у раку, сказаў:
— Адпраўляйся дамоў і заўтра вяртайся з бацькамі.



# КУРЁЗЫ

### НЕАД'ЕМНАЕ ПРАВА АМЕРЫКАНЦАЎ

Шмат дзе на свеце ўзнік анты-мідзі-фронт, на бок якога дзе-нідзе пераходзяць ужо афіцыйныя ўлады. У Гановер-Парку, напрыклад, маленькай абшчыне пад самым Чыкага — мясцовая адміністрацыя пастанавіла «накіраваць усю моц закона супраць носьбітак мідзі і максі». Пад пагрозай немалога штрафу ім забаронена заходзіць у парк. «Мы доўга цацкацца не будзем», — заявіў намеснік мэра Уільям Дэвіс. Пастанова «грунтуецца» на «неад'емным праве амерыканцаў захапляцца жаночай постацю ў найбольш яе выйгрышным месцы». Аднак сам мэр Рычард Вэйкер больш аптымістычны і памяркоўны: «Думаю, няма неабходнасці са ўсёй строгасцю ажыццяўляць гэту пастанову, бо ў нас досыць прыгожых ножак і для максі, і для мідзі, і для міні».

### НЕАНАЦЫСЦКІЯ ПУШКАРЫ

Заходнегерманскія таможнікі затрымалі на граніцы з Люксембургам двух малойчыкаў, аўтамабіль якіх быў бітком набіты неанацысцкімі лістоўкамі. Акрамя таго, у аўтамашыне аказалася... хуткастрэльная гармата. На пытанне, адкуль яна ў іх, неанацысты, не міргнуўшы вокам, адказалі, што знайшлі гармату на звалцы металалому. Такое тлумачэнне задаволіла таможнікаў, і яны, канфіскаваўшы гармату, адпусцілі затрыманых. Не збянтэжыла таможнікаў фашысцкая літаратура: яна ж выдадзена нацыянальна-дэмакратычнай партыяй, якая дазволена ў ФРГ і ахоўваецца канстытуцыяй.

### ЯК ВЕНЕРА МІЛОСКАЯ

Музычны крытык у часопісе «Мюзік Уорлд» (горад Таронта, Канада) так ацаніў якасці піяністкі Вівіян Трэшвуд: «Вылітая Венера Мілоская — і твар, і рукі!»




*Сцеражыся сустрэцца з дурнем, калі вуліца нешырокая.*